Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 33 (180) Вільня, Субота 14 Ліпня 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ: Вільня, Востраврамская вул. № 8, кв. 1. (Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1). Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА: На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 3 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл. Для заграніцы удвая даражэй. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Прамова пасла Ф. Ярэміча,

### на паседжаньні Сойму ў справе амнэстыі.

*(паводле стэнаграмы).*

Высокі Сойме! Сёньня маем прыняць праект амнэстыі, якой даўно ўжо чакаюць дзесяткі тысяч людзей, што сядзяць за кратамі, а з імі чакаюць амнэстыі сотні тысяч іх сем'яў. Я, як прадстаўнік Беларусі магу сьцвердзіць з гэтай высокай трыбуны, што з пасярод тых, якія знаходзяцца за кратамі ёсьць вялікі процант Беларусаў, сем'і, якіх чакаюць павароту да хаты сваіх бацькоў і сыноў.

Уважна прыслухоўваўся я да прамовы п. віцэміністра Цара, які сказаў, што гэта ёсьць праект уставы, які ўжо прыняты камісіяй, а высокі Сойме, ані кроку далей, бо ўрад гэтага не пазволіць. І калі станецца іначай, дык амнэстыі ня будзе зусім. Гэтак закончыў сваю прамову віцэміністар Цар.

Я ня ўходжу ў тое, ці ўрад захоча правясьці амнэстыю, ці ўрад з тых пэўных палітычных інтэнцыяў, аб якіх ня хоча гаварыць, магчыма адложыць амнэстыю да восені і зложыць адказнасьць на Сойм. Аднак-жа павінен сьцвердзіць, што ўва ўсей гэтай уставе для Беларускага Народу амнэстыі няма. І калі некаторыя папярэднія прамоўцы гаварылі і працягвалі руку да нашага братняга ўкраінскага народу, дык аб Беларусах нічога не казалі і для іх у самай уставе нічога не прадбачана. Калі возьмем артыкул 2, які тасуецца да нашых беларускіх земляў, дык там мы ўбачым, што амнэстыя ахапляе праступкі да пачатку 1920 году. На нашых землях у 1920 годзе была барацьба, аружная барацьба, якая закончылася толькі на канчатку таго-ж 1920 г. І толькі ў 1921 годзе распачалі польскія суды сваю дзейнасьць у нас, тады толькі пачаліся судовыя працэсы проці Беларусаў. Былі працэсы ў Беластаку, у Горадне, у Навагрудку і Вільне, але-ж усе яны адбыліся пасьля 1920 году. Прыпомню п. віцэ-міністру працэс у Беластоку, дзе быў засуджаны пасол Баран і шмат іншых. Нават суд тагды ў Беластоку не знайшоў там камунізму і прызнаў гэны працэс, як працэс нацыянальнага характару. Але ж ці гэтыя праступкі ахапляе амнэстыя? Я адказваю. — Не! Калі тут гаварылася аб крымінальнасьці і адміністрацыйных праступках, як гэта сказаў п. віцеміністар, дык можа яны тут і надта шырока прытарноўваюцца. Калі будзем гаварыць, ці прытасавана гэтая амнэстыя да нашага жыцьця, да палітычных праступкаў, дык я кажу, што яна да нас не падходзіць, бо ў працэсах проці Беларусаў ніхто ніколі не атрымаў аднаго году вастрогу, але-ж тры, чатыры, пяць, восем, дванадцаць гадоў, ня гледзячы на тое, ці была на гэта падстава ці не. Ня буду гаварыць тут аб судох, ня буду крытыкаваць судоў, ня буду тут дражніць паноў, бо зараз скажаце, што я спецыяльна вінавачу паноў, а я гэтага не хачу, толькі хачу сьцвердзіць, што фактычна гэтак было. Калі патрэбуюцца факты, магу назваць іх. Калі па 130 ст., за часоў царскіх урадаў, губэрнатар меў права толькі выдаліць на два гады са сваей губэрніі, дык польскія суды кс. Гадлеўскага асудзілі на два гады крэпасьці, а знача гэтая амнэстыя да яго тасавана ня будзе. А ці можна думаць, што кс. Гадлеўскі быў камуністым? — Не! А знача амнэстыі няма нават для праступкаў па 130 ст.

Калі-ж возьмем 129 ст., якая паўсюдна тасуецца, дык пане міністар, прашу верыць, што я ня кідаю вінавачаньня але скажу, што па гэтай стацьці даецца надта вялікая кара. Па 129 ст. даецца ня меняй, як 2 г. цяжкага вастрогу, тагды як за царскіх часоў давалася 6 месяцаў ці 1 год і то звычайнага арышту. І каб ня быць галаслоўным прытачу прыклад з сучасным сэнатарам Рагуляй, які асуджаны па 129 ст. на 2 гады цяжкага вастрогу з пазбаўленьнем правоў. У матывах прыгавору было сказана, што хоць у апошнія часы і закінуў антыдзяржаўную дзейнасьць, асуджваецца ён на 2 гады цяжкага вастрогу. Вось, якія асуды тасуюцца на нашых землях і дзеля гэтага мы ня маем амнэстыі.

Павінен адзначыць і тое, што да 1927 году, па ўсім працэсам, якія толькі адбываліся, асуджаныя грамадзяне стаўшы палітычнымі вязьнямі адбывалі падвойную кару, у два разы большую, якую яны фактычна павінна былі адбываць. І гэтак было дзякуючы 54 ст. К. К., якая не дазваляла залічваць прэвэнцыйнага арышту тым, якія былі асуджаны на 1 год цяжкага вастрогу.

Здаралася так, што калі хто прасядзеў да суда 2—3 гады, а па судзе дастаў адзін год, дык мусіў сядзець і гэты год, а разам—4 гады. Мала гэтага, усе тыя, хто быў асуджаны хоць на адзін год зьяўляецца пазбаўляным грамадзянскіх правоў. А знача за адзін год вастрогу прасядзеў 3—4 гады і астаўся пазбаўленым грамадзкіх правоў на ўсё жыцьцё. Здаралася гэтак дзеля таго, што на нашых землях у практыцы тасаваліся артыкулы ад 100 да 132, па якіх калі ўжо караліся, дык караліся цяжкім вастрогам. Дзеля гэтага я прашу паноў, каб паны згадзіліся з нашай папраўкаю, а праўдзівей з папраўкаю в.-маршалка Загайкевіча, каб амнэстыю, у адносінах да палітычных справаў пашырыць аж да 3 мая 1928 году, а тагды і толькі тагды, амнэстыя будзе датасавана і да нашых беларускіх земляў, дзе абавязуе карны кодакс з 1903 года. Іначай амнэстыі для нас няма.

І хоць тут гаварылася аб шляхотных (дабrandодых) учынках і прыгожамысьленьні з якімі паны павінны прыняць амнэстыю, аднак-жа мы амнэстыі ня маем, а хочучы скарыстаць з магчымасьці парушаем апошнюю справу, якая галасным рэха адбілася на нашых землях. Гэта ёсьць справа Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Высокі Сойме! Пры палітычных працэсах заўсёды гаворыцца тое, што ўсё робіцца за камуністычныя грошы і пры ўсякіх якіх-колечы справах тасуецца закід у камунізьме і заўсёды абасноўваецца гэта 129 ст., а іменна: падбураньне аднаго народу проці другога. Закідаецца: хочаце адарвацца і далучыцца да каго, да саветаў, а дык знача ёсьць лучнасьць з саветамі, з камуністымі. Няма ані воднае справы, каб ня быў нам прычэпляны камунізм. Мы-ж лічым, што апошні працэс, працэс Беларускай Грамады быў безумоўна палітычнаю распраўаю і сацыяльнаю распраўаю віленскіх зуброў над беларускімі сялянамі. А дзеля гэтага прапануем, каб у гэтай амнэстыі быў даданы гэтакі пункт, а іменна: пасьля 3 артыкулу дадаць новы арт. 3-а наступнага зьместу:

„Пускаюцца ў забыцьцё ўсе справы зьвязаныя са справаю г. зв. Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады“.

Не праўда што быццам з усяе Грамады суджана 56 чалавек. Да гэтага часу ёсьць яшчэ такія, якія будуць суджаны за тую самую справу, апрача тых, якія ўжо асуджаны. І вось калі будзеце паны гаварыць аб прыгожамысьленьні, дык я хацеў-бы каб сёньня паны выказалі чыстае прыгожамысьленьне, а тагды Беларускі Народ скажа, што ёсьць прыгожамысьленьне хоць ў Сойме. Адхіліце тыя крыўды, якія зроблены нам судамі, а тагды мы будзем гаварыць усюды, што запраўды польскі Сойм, з прычыны дзесятых угодкаў незалежнасьці Польскае дзяржавы даў амнэстыю, з якое мы можам скарыстаць. Калі-ж гэтага ня будзе, калі гэтыя прапазыцыі ня будуць прыняты, дык будзем лічыць, што амнэстыі для Беларусаў няма. (Воплескі на лавах нац. меншасьцяў).

## Страшэнная бура, віхор і навальніца ў Заходняй Беларусі.

У апошнім тыдні над Заходняй Беларусяй праняслася страшэнная бура, віхор і навальніца, якія нарабілі аграмадныя шкоды. 4-га ліпеня, у дзень, віхор пераляцеў над ваяв. Беластоцкім, Палескім і Навагрудзкім.

Найбольш пацярпелі паветы: Баранавіцкі, Ваўкавыскі і Горадзенскі. На абшары гэтых паветаў віхор павырываў тэлеграфныя слупы, сотні дрэваў і пазрываў стрэхі. Пасевы вельмі значна пашкоджаны. Каля Ваўкавыска віхор перавярнуў таварны вагон, хаваючы пад сабою работнікаў, з якіх 2 х панясло сьмерць на месцы. У Беластоку віхор разьбіў 2 таварныя вагоны і пашкодзіў чугуначнай машыне. Пханыя віхураю вагоны набеглі на работнікаў і 2-м з іх паадразалі ногі. Вялікія шкоды нарабіў віхор і ў Лідзкім павеце. Віхор прайшоў над мясцовасьцямі: Ганчары, Ельня, Шнібакі, Геранёны, Цехаўцы, Мілевічы, Гердзішкі і Селец зрываючы амаль усюды стрэхі з будынкаў і хат, робячы аграмадныя шкоды ў садох, падымаючы ў шмат мясцох пажары.

У часе буры і віхору у Навагрудзкім ваяводзтве пярунамі забіта 6 асоб і адна — зваленым дрэвам. Некалькі — наццаць асоб цяжка ранены.

Над граніцай польска — савецкай у раёне Хутор, Краснага і Івенца абарвалася хмура.

Улева з грымотамі трывала доўгі час, робячы вялікія шкоды пасевам. Ад пяруноў спалілася некалькі дамоў.

Нароблена шмат шкоды.

Віхор шалеў і над Вільняй; у 145 абонэнтаў было перарвана тэлефанічнае злучэньне, 8 тэлефанічных лініяў пашкоджаны.

## Да працы на правінцыі.

У жыцьці кожнага народу і ў змаганьні за яго правы і інтарэсы магутную ролю адыгрывае асьвета. Народ асьвечаны з большым пасьпехам змагаецца з ўрожнымі натуральнымі і штучнымі (створанамі іншымі) перашкодамі і даводзе да што-раз лепшых варункаў жыцьця. Калі наш БеларускіНарод знаходзіцца ў вельмі дрэнных абставінах жыцьця, дык прычынаў гэтага трэба шукаць часткава і ў нашай слабой асьвечанасьці і цемры, якая пануе ў кутох нашага краю. За апошнія гады прамень сьвятла заглянуў і ў нашую цёмную вёску. Праўда, хоць дагэтуль мы ня маем сваіх школ, аднак сетка беларускіх культурных арганізацыяў пачынае пакрываць наш край. Хоць ня маем сваей роднай школьнай асьветы, дык можам нат' пры істнуючых цяжкіх абставінах тварыць зашкольную асьвету. Гэтая зашкольная асьвета выяўляецца ў закладаньні народнах дамоў, бібліятэк, у чытаньні лекцыяў, ладжаньні спэктакляў, арганізаваньні беларускіх хораў і інш. З недахвату памешканьняў зімою, цяпер у летнія часы трэба асаблівую увагу зьвярнуць на ладжаньне беларускіх спэктакляў.

Трэба, каб ня было ў Заходняй Беларусі ані аднoe вёскі, якая-б ня бачыла беларускае сцэны. Гэтую зашкольную асьветную працу найлягчэй вясьці, залажыўшы гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. У інструкцыях, выданых Інстытутам кожны можа знайсьці парады і інфармацыі, як у справе залажэньня культурна-прасьветнага гуртка, так і ў справе самой працы гуртка.

Цэнтральны Урад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры гэтым заклікае усіх культурных працаўнікоў, на вёсцы якія яшчэ не належаць да адпаведных арганізацыяў, прыняцца за працу зашкольнай асьветы пад сьцягам магутнае арганізацыі — Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Інструкцыі можна выпісаць з Інстытуту па адрэсу: Вільня, Вострабрамская 8-1

*Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.*

## Памажэце пагарэльцам!

У днях 5 і 20 чэрвеня сёл. г. з няведамай прычыны выбухнуў пажар у вёсцы Панемунцы, Беліцкай гміны, Лідзкага павету. Больш як сто сем'яў знаходзіцца бяз страхі над галавой, бяз куска хлеба і адзежы. У гэтым вялікім няшчасьці трэба помачы няшчасным з боку ўраду і грамадзянства.

Дзеля гэтага ў Беліцкай гміне заснаваўся *Камітэт помачы пагарэльцам в. Панемунцы*, які зьвяртаецца да грамадзянства з просьбай памагчы для пагарэльцаў, хто чым і сколькі можа.

Ахвяры трэба адсылаць праз урад Беліцкай гміны—для Камітэту Помачы Пагарэльцам в. Панемунцы.

Адрас: пошта Беліца, пав. Лідзкі, Урад Беліцкай гміны—для Камітэту Помачы Пагарэльцам в. Панемунцы.

Пры гэтым урад К-ту П. П. в. Панемунцы просіць усе рэдакцыі мяйсцовых газэт зьмясьціць у сваіх часопісях такую адозву.

*Урад Камітэту.*

## Пастанова адзінкі ў справе беларускага школьніцтва.

Віленскія і Навагрудскія паслы і сэнатары з „Адзінкі“, на адным з сваіх паседжаньняў прынялі наступныя пастановы.

1) Прыняць на дзяржаўны кошт беларускае школьніцтва ў межах абасанаваных аб'ектыўна пацьверджанымі патрэбамі беларускага жыхарства.

2) Зьмена ўмовы ад 31 ліпня 1924 г. аб арганізацыі школьніцтва (Дн. Уст. № 79, паз. 766—1924 г.) у кірунку магчымага выкананьня пункту першага, а таксама спыненьня нацыянальнай барацьбы на грунце школьніцтва праз скасаваньне прынцыпу школьных плебісцытаў і ўтраквістычнае сыстэмы.

3) Неадкладнае скасаваньне кругавіка (цыркуляру) міністра Дабруцкага ад 30. III. 1927 г. № I—2170/28 да бесшкольных абводаў.

4) У сувязі са скасаваньнем гэтага кругавіка паддаць рэвізіі пастановы аб адчыненьні агульных (пачатковых) школ, прынятых на аснове школьнага плебісцыту ў 1927 г.

5) Адчыненьне ад пачатку новага школьнага году дзяржаўнай беларускай вучыцельскай сэмінарыі ў Вільні.

6) Да часу ўдзержаўленьня беларускіх прыватных гімназыяў у Вільні і Навагрудку прызнаньня імі іхным інтэрнатам фінансавай дапамогі ў той ці іншай форме.

7) Наданьне гэтым гімназіям ад будучага школьнага году правоў публічнасьці.

8) Калі будуць прыняты на дзяржаўныя штаты беларускія гімназіі ў Вільні і Навагрудку — перафармаваньне прыватных беларускіх гімназіяў у Радашкавічах і Клецку на беларускія пачаткавыя 7-клясовыя школы, або на прафэсыянальныя школы.

9) Утварэньне на Віленскім Унівэрсытэце катэдры, або лектаратаў беларусазнаўства.

10) Утварэньне пры Віленскай куратoрыі рэфэрату беларускага школьніцтва, і камісіі для апрацаваньня і выданьня праграмаў навучаньня і падручнікаў для беларускіх школ — з удзелам прадстаўнікоў беларускага асьветнага руху.

11) Заапекавацца Дзяржаве Беларускім Музэем у Вільні і прызнаньня яму матэрыяльнай помачы.

12) Увядзеньне школьнага самаўраду ў паўночна-усходніх ваяводзтвах падобна да самаўрадаў у цэнтральных ваяводзтвах.

Трэба прызнаць, што гэтыя пастулаты, хоць ня зусім аднак у значнай меры задавольваюць дамаганьні Беларусаў. Але маем прыклады, што гаворыцца і дэкляроўваецца адно, а выконваецца другое. Пакуль-што няма ніякіх

вайны і галоднага, можна ўсяго чакаць. Могуць ізноў знайсьціся вонкавыя чорныя сілы і выклікаць новую агульную барацьбу. Сучасны стан Кітая такі, як чалавека пасьля хваробы, калі што-небудзь нязначнае, але-ж не спрыючае яму, выклікае ізноў хваробу.

### Кандыдаты на прэзыдэнта Амэрыкі.

Пад восень маюць адбыцца перавыбары прэзыдэнта ў Злучаных Штатах Паўн. Амэрыкі. На кандыдата ў прэзыдэнты рэспубліканская партыя выставіла міністра Гувэра і дэмакраты — ньюёрскага губэрнатара — Сміта. Рэспубліканская партыя лічыцца праваю, а дэмакраты леваю. Цяпер істнуе ў Зл. Ш. П. Амэрыкі новыя радыкальныя партыі— лявейшыя ад дэмакратаў—г. зв. паступовая—прагрэсыўная і камуністычная. Але-ж абедзьве яны ня маюць пасьпеху ў народзе. Іх праца нідзе і няўчым не выявілася. Ці выставяць яны сваіх кандыдатаў,—ня ведама!

### Новы жорсткі закон у Японіі.

Рыская руская газэта „Сегодня" змясьціла вестку з Японіі, у якой гаворыцца аб тым, што каронная рада пры японскім імпэратары прыняла новы закон, згодна якога будуць карацца сьмерцю правадыры тых арганізацыяў, якія паставяць сабе мэту скінуць істнуючы дзяржаўны лад у Японіі гвалтоўнымі мерамі. Гэты закон зьяўляецца вынікам дзейнасьці камуністычнае партыі на тэрыторыі японскай дзяржавы.

### „Маленькая рэвалюцыя".

Гэтак называюць газэты дамаганьне італьянскага каталіцкага духавенства ад вышэйшае каталіцкае ўлады скасаваньня абавязкавага карыстаньня з сутаны, якую носіць каталіцкае духавенства цяпер. Італьянскае каталіцкае духавенства дамагаецца дазволу карыстацца вопраткаю звычайнай грамадзянскай формы, або ўвядзеньня вопраткі болей адпаведнай за цяперашнюю сутану.

### Асуд у шахтавым працэсе.

У Маскве закончыўся вялікі судовы працэс, у якім разглядалася справа 52 інжынераў і тэхнікаў каменна-вугальных шахтаў, вінавачаных у праступках проці савецкага ўраду.

Вынесеным асудам адзінаццаць чалавек прыгавораны на кару сьмерці; з якіх пяць чалавек ужо растрэляна, а шэсьць памілавана. Ім кара сьмерці заменена на 10 гадоў вастрогу.

Рэшта вінавачаных асуджаны ў вастрог на розныя тэрміны, а 4 чал. апраўдана. Апраўданы і нямецкія інжынеры.

### Заканчэньне польска-літоўскіх перагавораў.

Гэтымі днямі польска-літоўскія перагаворы ў Коўне закончыліся, але-ж без ніякіх рэзультатаў. Польская дэлегацыя вярнулася ў Варшаву. У часе перагавору выявіліся вялікія разыходжаньні ў паглядах паміж палякамі і літвінамі ў паглядах на сутнасьць направы адносінаў і паразуменьня.

# НАВІНЫ.

— **Статут Банку.** Выйшаў з друку Статут Беларускага Коопэратыўнага Земляробска - Прамысловага Банку ў Вільні. Хто хоча атрымаць Статут павінен прыслаць у Дырэкцыю Банку (Вільня, Вострабрамская 8—1) паштовых марак на 25 грош.

— **Агульны сход сяброў Нацыянальнага Камітэту.** У суботу 14-га ліпня, а 4 гадзіне адбудзецца агульны гадавы сход Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту. На парадку дня, між іншым, справаздача і перавыбары прэзыдыуму.

— **Прыватныя беларускія школы.** На істнуючыя прыватныя беларускія школы ў в. Рудаўка, Слонімск. п. і ў в. Шаўляны, Браслаўскага пав. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў Вільні падаў заявы аб канцэсіі на 1928/29 школьны год. У сувязі з гэтым высьнілася, што канцэсія на школу ў Рудаўцы зьяўляецца сталай (заўсёднай).

На жаданьне жырахаў в. Максімаўкі, Радашкаўскае вол., Маладэч. пав. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры пастанавіў залажыць ў в. Максімаўцы прыватную беларускую школу. Заява аб канцэсіі ўжо пададзена да Маладэчанскага Школьнага Інспэктара.

— **Гурток Інстытуту у Пятровічах, Ашмянскага пав.** 8 ліпня у Пятровічах, Нальшанскае вол., Ашм. пав. адбыўся арганізацыйны сход, на якім пастаноўлена залажыць гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. У прэзыдыум гуртка выбраны: Старшыня гр. Пятроўскі М, Скарбнік гр. Барысэвіч Ул., Сэкрэтар Даніловіч Гр., Заступнікі: А. Ракоўскі і Я. Маркоўскі.

— **Пасецжаньне Цэнтральнага Камітэту Бел. Сялянскага Саюзу.** У суботу 14. VII. адбудзецца паседжаньне Цэнтральнага Камітэту Беларускага Сялянскага Саюзу ў Вільні. На паседжаньні будзе разгледжана рад пытаньняў палітычнага і гаспадарчага характару.

— **Ад Віленскае Беларускае Гімназіі.** На падставе атрыманых распараджэньняў, прыймо ў Гімназію новых вучняў можа адбыцца ў восені толькі з дазволу Кураторыума. Усе паданьні адрэсуюцца на імя Кураторыума Віленскага Школьнага Вокругу, але прыслаць іх, разам з дакумэнтамі, трэба ў Дырэкцыю Гімназіі і не пазьней 10 жніўня г. г.

Хто перарос вымагаемую норму, той ня можа быць прынятым у гімназію. У I кл. прыймаюцца ад $9\frac{1}{2}$ да 12 гадоў, у II ад $10\frac{1}{2}$ да 13 гадоў, у III ад $11\frac{1}{2}$ да 14 г. і г. д.

У інтэрнат пры гімназіі будуць прыймацца толькі хлапцы малодшых клясаў (I—IV кл.) з платаю за ўтрыманьне ад 50 да 60 зл. у месяц, пры сваім адзеньні і бялізьне.

За падробнымі спраўкамі зварочвацца ў Канцэлярыю Гімназіі. Дырэкцыя.

— **Урадавая субсыдыя для спадаровага зьвязу.** Сярод польскіх гаспадарчых колаў радыкальна „зьмяніліся" адносіны да Беларусаў пасьля таго, як „наўчоны спадар" заснаваў „Гаспадарчы Зьвяз". Пасьля гэтага наступіла „зьмена" фронту, „сталі" тварам да Беларусаў, „парупіліся" аб іх ды... прышлі з „дапамогаю". А вось і першая ластаўка-зьвястунка гэтага!

Нас інфармуюць, што польскі Дзяржаўны Земляробскі Банк на паседжаньні Надзорчай Рады 20 г. чэрвеня прыняў пастанову, згодна якое *на жаданьне „спадаровага Гаспадарчага Зьвязу прызнана яму і пераведзена ў дэпазыт*, цераз Віленскі Аддзел Банку *тры тысячы злотых, як безвваротная субсыдыя, якою „Гаспадарчы Зьвяз"*, а г. зн. „наўчоны спадар" Янка Станкевіч, як старшыня г. „Зьвязу", *можа распараджацца як захоча. Субсыдыя прызнана быццам для арганізацыі спадаром выстаўкі.*

— **Прыгавор у справе беластоцкага працэсу.** У беластоцкім судовым працэсе, у якім фігуравала—136 падсудных за камуністычную працу, выданым прыгаворам асуджана: 2 падсудных на 8 г. цяж. вастрогу кожны, 3 на 7 г, 13 на 6 г, 22 на 4 г, 15 на $2\frac{1}{2}$ г, 5 на 2 г. зв. вастрогу і 9 на 1 год вастрогу. 22 вінавачаных апраўдвана. Усім асуджаным залічаны прэвэнцыйны арышт.

Жыдоўскія газэты вельмі ўстрывожаны тым, што ў лічбе абвінавачаных знаходзіцца добрая палавіна жыдоў.

— **Справа „Праваслаўнае Беларусі".** Рэдакцыя часопісі „Праваслаўная Беларусь" просіць нас падаць да ведама яе падпішчыкаў, што выхад часопісі з браку сродкаў часова спыніўся.

— **„Меншасьцёвыя справы"**, год II-гі, № 2 — польскі месячнік вышаў з друку са зьместам: 1) Польскае школьніцтва ў Нямеччыне, 2) З пытаньня меншасьцёвых і ладу ў правасл. царкве ў Польшчы, 3) Справа нац. менш. у Уніі Т-ваў Лігі Народаў і 4) Хроніка.

Выдае яго Інстытут Досьледаў Меншасьцёвых Спраў, кіраўнікі якога навонкі робяць кіўкі безстароннасьці і шукаюць, быццам, способу для бяскрыўднага вырашэньня меншасьцёвае справы ў межах Польшчы, а ў запраўднасьці стараюцца знайсьці спосаб, каб кампрамітаваць нац. меншасьці ў вачох дзяржаўнага польскага грамадзянства ды заграніцы.

Перадусім аб гэтым сьведчыць тое, як яны разглядаюць беларускую прэсу. Паном дасьледчыкам хіба добра ведама каго рэпрэзэнтуюць газэты „Беларускі Дзень", б. „Беларускае Слова", спададароў „Народ" і г. д. Паны дасьледчыкі ведаюць які пасьпех і пашану маюць гэтыя часопісі ў Беларускага Народу; паны дасьледчыкі добра ведаюць, што яны гэтыя часопісі ня могуць выражаць думак, жаданьняў і дасяганьняў Беларускага Народу.

Мала гэтага, ужо проста тэндэнцыйна падаюць інсынуацыі, як напрыклад, тое, што Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў апошні час стараецца ажывіць сваю працу, якая быццам „падупала, дзеля таго, што некаторыя выдатныя супрацоўнікі Бел. Інст. Г. і К. адхіліліся ад дзейнае працы" запраўднасьці-ж ніякага адхіленьня сярод супрацоўнікаў Бел. Інстытуту ня было.

М. Вяршынін.

## Сьвяткаваньне Купальля.

24 чэрвеня абходзіцца ўрачыстасьць Яна Хрысьціцеля. Дзень гэты пабеларуску і ўкраінску называецца днём Купалы. Чаму ён так называецца не кожнаму вядома, дык пастараемся даць аб ём кароткі нарыс.

Купала прыходзіцца ў тую пару года, калі сонца дасягне свайго найдаўжэйшага сьвячэньня і паварочвае назад. (Гэты паварот сонца адбываецца 21 чэрвеня. Канчаецца вясна, пачынаецца лета і дзень стане ўбываць). Так сама і усе жыцёвые сілы прыроды, вычарпаўшы сваю энэргію, стануць слабець і старэць. Час гэты сьвяткаваўся ўсімі народамі яшчэ ў глыбокую старасьветчыну. Звычаі сьвяткаваньня з'явіліся найперш на паўднёвым усходзе-ў Грэцыі, дзе філязофы і паэты сваімі творамі аздобілі сьвята ў пекныя формы ідыліі на падставе містыкі і рамантызму. З гэтых твораў і цяперака выдатнейшыя мастакі — маляры бяруць матэрыялы для маляваньня фантастычных абразоў аб небывалых падзеях.*) Кароткі зьмест гэтакі:

Дзьве грэцкія багіні Афрадыта і Пэрсефона*) закахаліся ў аднаго найпекнейшага дзяцюка Адоніса. Найвышэйшы бог Зэўс рассудзіў каб Адоніс адну трэціну году быў мужам Афрадыты, другую — Пэрсефоны, а апошнюю трэціну каб быў вольным. На паляваньні дзік разарваў Адоніса, Афрадыта шкадавала і надта плакала.., З крыві Адоніса вырасла кветка рожа. А так як багі былі вечна маладымі, ніколі не старэлі і не паміралі, а Адоніс так сама лічыўся богам, дык рожа значыла ўваскрашеньне Адоніса і паварот яго да Афрадыты. Па другому варыянту багіні пачалі спрачацца з-за Адоніса пасьля яго сьмерці і Зеўс вярнуў яго Афрадыце.

Гэтае сьвята (Адонізіі) Грэкі сьвяткавалі надта ўрачыста з працэсіямі, песьнямі і танцамі. У Адонісавых садох расьціліся кветкі, якія хутка распускаюцца і вянуць, каб нападаблялі (напаміналі) жыцьцё і сьмерць Адоніса,

Пад уплывам выдатнага зьяву прыроды (паварота сонца) звычай сьвяткаваньня пашырыўся на усю Эўропу. Культ Адоніса сьвяткаваўся ў формах,

*) Нямецкі мастакі намалявалі ў апошнія гады шмат абразоў гэтага жанру.

**) Афродыта гэта Вэнэра, багіня каханьня яна радзілася з марской пены. Пэрсефона багіня прыгожасьці кабет, дачка галоўнага бога Зеўса.

— **Вялікі пажар у м. Лужках,** Дзісьненскага пав., здарыўся 30 чэрвеня с. г. Стратаў налічаецца каля мільёна злотых.

Такі быў дзед, нябожчык Юрка!
I дзядзька быў рыбак выдатны,
Хоць больш урыўкавы, прыватны,
Але лавіў такі ня мала,
I дзядзьку ў рыбе шанцавала.
Бывала пострыжні прыправіць,
На шчупакоў нясе і ставіць.
Глядзіш — о, добрая мінута! —
Шнур з вілак спушчан, палка ўгнута.
Схапіў жыўца шчупак і сьвішча,
Дастаў — ў два локці шчупачышча!
I з вудай дзядзька шчасьце мае:
Язёў занадзіць і келзае;
Язі ў тры хунты і ў чатыры!
Агледзіць дзядзька букты, віры,
Картофель зварыць і гароху
I надзіць рыбу ён патроху.
Лавіў наш дзядзька нераткамі
I венцярамі і сачкамі,
Ды аднаго ўсё-ж бракавала:
У дзядзькі чоўна не ставала.
Каля адрынкі пад страхою
У дзеда Юркі сіратою
Валяўся човен так, бяз дзела,
На сонцы сохла яго цела,
I човен, праўда, ўжо ня новы.
Дзед Юрка быў рыбак скарбовы,
Скарбовай чайкай карыстаўся,
А ўласны човен так валяўся,
Як-бы ў адстаўцы той сэнатар,
Хоць на чаўны дзед быў аматар.
Дзед Юрка дзядзьку паважае
I да яго прыхільнасьць мае:
Антось ня знае такой моды
Рабіць у рыбе перашкоды
I глупства ён рабіць ня стане
I ў венцер дзедаў не загляне.
— Бяры, Антось, ты човен гэты.
Рассохся трохі ён на лета
I сям-там нават пакалоўся,
I шашаль, можа, дзе завёўся,
Але, агледзіўшы, нічога:
Яшчэ паслужыць мала—многа, —
Антось, як сонца, засьвяціўся:
Даўно аб чоўне ён смуціўся:
Да дому дзядзька ехаў лёсы,
Кладзе ён човен на калёсы,
I едзе наш Антось вясёлы,
I з ім падсьмейваюцца й колы.
На рэчку човен ён спускае —
Няхай сабе тут намакае;
А там, управіўшысь з сяўбою,
Зальле Антось яго смалою,
Агледзіць і закапапаціць,
А дзе і бляхаю прыхваціць.
„Засьвішча човен мой стралою!"
Так думаў дзядзька сам з сабою.
Пакуль Антось канчаў работу,
На рэчцы човен меў турботу:
Як толькі добра сонца ўгрэе,
Кастусь у чоўне ўжо дурэе
Без нагавіц ў ваднэй кашулі.
I хоць за ногі мыцкі тнулі
I запускалі як-бы сьпіцы,
Але скідаў ён нагавіцы,
Бо так спрытней быць каля чоўна,
I нагавіцы — рэч умоўна.
Зазнаў тут бедны човен гора:
Каламі Костусь яго пора
I ва ўсе бокі яго круціць
I толькі воду каламуціць,
Бо тут гразі больш, чым вады,
I мулу, рознае брыды.
Бубніць тут човен, ходзіць рэха —
Такая хлопцу з ім пацеха!
Антось на човен свой як гляне —
I весялей на сэрцы стане:
Які-б ні быў, а ўсё чаўнок
I шчылін мала, як намок.
Тымчасам дзядзька ненарокам
Глядзеў на човен добрым вокам.
Дзянёк ён выбраў больш-менш вольны
Ідзе вясёлы і давольны.
На бераг човен выцягаюць,
Алесь і Костусь памагаюць.
— На бок вярнеце, дном у гору!
Палечым зараз, наш ты хворы! —
Да чоўна дзядзька так зьвярнуўся
I каля яго ён завінуўся.
— Бярэце пакульле і сьпіцы...
Памчымся мы на ніз крыніцы,
Аж толькі вецер засьвідруе! —
Язду ўжо дзядзька тут смакуе.
— Вы шчыльна, шчыльна затыкайце
Што наймацней, бат, забівайце!
Ды дружна, борзда канапаціць,
Каб час ня зводзіць і ня траціць!..
Стары ўжо, падла, і трухлявы:
Увесь, як рэшата, дзіравы, —
Гаворыць дзядзька ў час работы,
Сабе, другім дае ахвоты.
Ідзе работа і размова —
I канапачаньне гатова.
Смалою трохі засмалілі
I на ваду чаўнок спускалі.
Але тут цесна, вады мала,
I дно аб зямлю шаравала.
А дзядзька хоча дзеля спробы
Дальш з гэтай выбрацца трушчобы:
Там, далей, рэчка не такая
I глыбіні даволі мае.
Праз плот чаўнок гуртом куляюць,
На ніз паволі прыпіхаюць;
„Плыве човен, вады повен,
Ды ўсё — хлюп! хлюп! хлюп!"
Сьпяваюць хлопцы і жартуюць
I дзядзьку з чоўнам дальш шыбуюць.
А дзядзька важны выгляд мае;
Замест вясла, прысок трымае,
А твар яго, як сонца, ясны,
Бо гэты човен — яго ўласны
I не цячэ ён а ні-ні;
Чаўнок, куды ні павярні.
I трэба ўсё-такі зазначыць —
Такой працэсьсі вам ня бачыць:
Алесь і Костусь човен пхаюць,
Падол кашуль ў зубох трымаюць,
А дзядзька ў чоўне — сонца ў коле!
Тымчасам човен і на волі,
Бо тут глыбока рэчка грае,
I хлопцам пуп вада мінае.
— Ну, годзе, хлопцы, досыць вам:
А ну-ткаль спробую я сам! —
I дзядзька ўжо тут адразэчку
Пачуў, што выехаў на рэчку.
I гэта яснасьць сходзіць з твару.
Бярэ ён прыс, ён повен жару,
Рашучасьць думкі, сьмеласьць руху,
Эх, колькі сілы, колькі духу!
Зусім істота ў ім другая!
На прыс ён разам налягае
Ды на нагах калі прыгнецца!
Тут човен раптам як рванецца,
Бы той спалоханы шчупак!
Гэрой наш дзядзька, наш рыбак,
Адразу ў дзьве бяды папаўся:
Перш-на-перш прыс у гразь вагнаўся.
А човен носам — трах у дрэва!
А дзядзька раптам — гоп налева!
I ногі ў портках адмысловых —
Ня проста ў зрэбных — шарачковых
Адно ў паветры бурканулі
Ды ў воду ў момант баўтанулі!
Усхапіўся дзядзька мокры, брудны,
А вынік спробы тэй паскудны:
Чаўнок — ня човен, а карыта
I нос і частка дна адбіта;
Прысок тырчыць, як струп на плеху,
А хлопцы поўзаюць ад сьмеху,
А дзядзька сам — цар без кароны
I выгляд — мокрае вароны!

(Далей будзе).

